Пераклад Васіля Раманава 2014 г.

Прафесар М. В. Доўнар-Запольскі

# Царква і святарства ў дамангольскай Русі.

Выданне таварыства
Я. Д. Сыціна Дазволена цэнзурай.
Масква 24 лютага 1906 года.

## Царква і святарства[1].

### I.

Хрысьціянства перайшло на Русь із Візантыі. Вельмі натуральна пагэтаму, што Царква і святарства тут сталі карыстацца такімі ж правамі і ўплывам, як і ў Візантыі. У Візантыі ж Царква мела вельмі шырокае значэнне. Патрэбна памятаць, што старажытнейшая хрысьціянская Царква, не вызнаваемая і нават пераследуемая рымскім урадам, уяўляла сабой асобнае духоўнае грамадства, звязанае не толькі рэлігіяй, але меўшае і сваё асобнае грамадскае кіраванне. Рымскія законы, пачынаючы з Канстанціна Вялікага, прызнаючы існаванне і нават уладаранне хрысьціянскай Царквы, прызнавалі і яе права на ўнутранае кіраванне, а таксама і права прадстаўнікоў царквы, япіскапаў, судзіць справы, якія мелі дачыненне да веры: разам з тым было асвечана і права япіскапаў мець пад сваім наглядам некаторыя ўстановы, а таксама і іх права браць удзел у разгляданні некаторых грамадзкіх спраў. У Візантыі япіскап з'яўляўся адным із шаноўнейшых грамадзян свайго гарода і меў уплыў на кіраванне горадам і вобласцю. Так, япіскапы бралі ўдзел у выбары некаторых правінцыяльных чыноўнікаў, разам з іншымі шаноўнымі грамадзянамі мелі права нагляду над гарадзкімі грамадзкімі ўстановамі, япіскапы мелі некаторае дачыненне да

[1] Галоўнейшыя творы:
*Галубоўскі.* «Гісторыя рускай Царквы". Т.1. перыяд першы, кіеўскі ці да-мангольскі. Першая палавіна тома. М. 1880.
*Макарый* мітрапаліт. "Гісторыя рускай царквы". Т I-III.
*Сяргіевіч.* "Рускія юрыдычныя стаажытнасьці". Т. II (Глава аб Царкве). *Калачоў.* "аб значэнні Кормчай у сістэме старажытна рускага права". М. 1850.
*Мікіцкі.* "Нарыс унутранай гісторыі Царквы ў Вялікім Ноўгарадзе". С-Пб. 1879.
*Бляеў.* "Аб грамадзкім значэнні хрысьціянскай Царквы і яе ўстаноў на Русі ад Уладзіміра Св. Да мангольскага панавання" ("Час. Мін. Нар. Асветы", 1856, ч. XCI).
*Цярнаўскі.* "Удзел старажытна-рускіх архіярэяў у справах грамадзкіх". "Працы Кіеўскай Духоўнай Акадэміі", 1870, №2.
*Салаўёў.* "Погляд на стан святарства ў старажытнай Русі". "Чытанні ў Імп. Грам. Гіст. і Стар. Рас.", 1847, №6.
*Нявoлін.* "Аб прасторы царкоўнага суду ў Расіі да Пятра Вял." (Збор твораў. Т. VI).

нагляду над гандлем, у цэрквах пад назіраннем япіскапаў захоўваліся меры і вагі; япіскапы ж павінны былі сароміць купцоў, каб яны не рабілі гандлёвых аперацый, якія прыводзілі б да абцяжарання становішча бедных. Наогул япіскап быў абаронцам бездапаможных і прыгнечаных: згодна з візантыйскімі законамі, усякая дабрачыннасць, кіраванне богадагаджальнымі ўстановамі, збіранне для гэтай мэты ахвяраванняў і інш. былі перададзены пад нагляд Царквы. Звыш таго, япіскап мог умешвацца ў справы абароны слабых: пад яго заступніцтва аддаваліся людзі якія вярнуліся із палону, каб ніхто не мог абцяжарваць празмернымі працамі такіх людзей; япіскапы былі абавязаны глядзець, каб ніхто не браў у рабства дзяцей, пакінутых іх бацькамі; жанчыны аддаваліся пад абарону ўлады япіскапа, калі ім пагражаў нейкі гвалт. Нарэшце япіскап быў абавязаны наведваць турмы і мог умешвацца ў кіраванне, калі з боку чыноўнікаў заўважаў нейкую няпраўду. Акрамя таго, суду япіскапа належаў цэлы шэраг спраў грамадзянскага і крымінальнага характару. Судовая ўлада япіскапа паўстала із таго, што старажытныя хрысьціяне пазбягалі падсуднасьці язычніцкім судам і звярталіся з нагоды ўсіх сваіх справаў да суду духоўных улад. Законы хрысьціянскіх імператараў прызнавалі суд япіскапа ва ўсіх тых выпадках, калі спрачаючыяся звярталіся да яго дабраахвотна: у такім выпадку грамадзянскія ўлады былі абавязаны выканаць судовы вырак япіскапа. Але, акрамя таго, закон аддаваў на разгляд выключна суду япіскапа цэлы шэраг спраў: справы, якія мелі дачыненне да заключэння і заканчэння шлюбу, так як шлюб быў прызнаны Царквой сакрамэнтасьцю. Япіскап браў удзел у апецы над малагадовымі, калі бацькі сваім завяшчаннем не вызначылі апекуноў. Нарэшце, імператарскімі эдзіктамі япіскапам было нададзена права ў выпадках, калі патрабавалася ахова рэлігіі: законамі імператараў Аркадзія, Ганорыя, Феадосія япіскапам было нададзена права забараняць царкоўнай ўладай здзяйсненне звычаяў язычніцкага абраду; згодна з законам Ганорыя і Феадосія людзі, якія займаліся чарадзействам, былі абавязаны спаліць свае кнігі перад япіскапамі, пад страхам пакарання пры невыкананні гэтага патрабавання. Імператар Юстыніян выдаў закон згодна якому ўладзе япіскапа надавалася права вырабляць вышук пра азартныя гульні і перапыняць іх. Гэты закон перадаваў пад уладу япіскапа назіранне за адным із бакоў маральнага жыцця грамадзян. Патрэбна заўважыць, што ва ўсіх выпадках, калі Царкве даводзілася выдаваць свае рашэнні па той ці іншай судовай справе, Царква выказвала толькі сваё меркаванне, пакаранне ж прызначалася свецкімі ўладамі.

Толькі што былі паказаны памеры ўлады і ўплыву Царквы і яе прадстаўнікоў у справах больш свецкага, чым царкоўнага характару, і па адносінах да асоб, якія не знаходзіліся ў непасрэдным падпарадкаванні святарства. Пастановы сусветных сабораў

патрабавалі, каб духоўныя асобы ва ўсіх спрэчках паміж сабой звярталіся выключна да суду япіскапаў. Гэтая царкоўная пастанова была прызнана дзяржаўным законам. Больш таго, згодна з законам імператара Юстыніяна міране з позвамі па грамадзянскіх справах да духоўных асоб павінны былі звяртацца да царкоўнага начальства; толькі ў выпадку нязгоды з рашэннем япіскапскага суду судзячыяся звярталіся ў свецкі суд. Але духоўная асоба павінна была звяртацца супраць свецкай асобы да суду грамадзянскага. У выпадку, калі духоўная асоба абвінавачвалася ў цяжкім крымінальным злачынстве, то і тады справу разглядаў япіскап (згодна з законам імператара Іраклія); і калі ён знаходзіў вінаватага заслугоўваючым пакарання, то пасьля пазбаўлення духоўнага сана перадаваў яго свецкай уладзе.

І так, згодна з візантыйскімі законамі Царкве належаў суд ва ўсіх адносінах над усімі асобамі, якія былі ў поўным яе падпарадкаванні.

У іншых выпадках прадстаўнікам Царквы давалася вялікая доля ўплыву на справы, якія не адносіліся непасрэдна да рэлігіі. Патрэбна заўважыць, аднак, што ў жыцці Візантыі існавалі такія ўмовы, якія часам перашкаджалі нармальным адносінам паміж свецкімі і духоўнымі ўладамі: шмат чаго залежала ад палітыкі таго ці іншага імператара; між іншым партыі часта пастанаўлялі і скідалі імператараў, а з іх пераменай часта змянялася палітыка ў дачынені да Царквы.

З прыняццем хрысціянства старажытная Русь прыняла да сябе грэчаскага мітрапаліта, грэчаскіх япіскапаў і, верагодна, большасць першых святароў былі таксама із грэкаў. Вельмі зразумела, што грэчаскае святарства прынясло з сабой із Візантыі ўвесь свой лад, які быў узаконены пастановамі сусветных сабораў. Разам з перанясеннем царкоўных статутаў грэчаскае святарства, натуральна, імкнулась да таго, каб захаваць за сабою і той уплыў на справы свецкага кіравання, якімі яно валодала згодна з законамі Візантыйскай імперыі. Дасягнуць гэтага было тым лягчэй, бо хрысьціянская Царква на Русі была ўстановай зусім новай, да якой рускія князі і грамадства адносіліся з павагай і гатоўнасьцю ў шмат якіх выпадках дзейнічаць згодна яе кіраванню. Да гэтага далучалася здзіўленне і глыбокая павага, якія варвары-русы выказвалі да ззяння імператаскай улады, мудрасьці яе пастаноў і да візантыйкай адукаванасьці. Усё гэта пракладвала шырокі шлях царкоўнаму уплыву на старажытна-рускае грамадства і дзяржаву. Для таго, каб абняць становішча Царквы ў старажытнай Русі, патрэбна разгледзець, па-першае, будаўніцтва царкоўнага кіравання ва ўласным сэнсе, па-другое, правы Царквы, якімі яна карысталася ў галіне суду, нарэшце патрэбна прыгледзецца да таго ўплыву, якім карысталіся прадстаўнікі святарства ў асяродку грамадства незалежна ад правоў, якія ім надаваліся заканадаўствам старажытных князёў.

Перш за ўсё, атрэбна разгледзець лад царкоўнага кіравання.

## II.

Руская мітраполія была самай абшырнай мітраполіяй канстантынопальскага патрыярхату: яна па сваіх памерах нават пераўзыходзіла сам патрыярхат. Негледзячы на гэта, руская мітраполія згодна з грэчаскімі рахункамі занімала адно із апошніх месц сярод епархій, якія залежалі ад патрыярхата: па грэчаскім каталогам яна спачатку занімала 71-е месца. Між іншым грэчаскія мітраполіі уяўлялі сабой толькі невялікія вобласьці, правінцыі імерыі. Не гледзячы на тое, што руская мітраполія занімала тэрыторыю самастойную дзяржаву, прадстаўнікі канстантынопальскай Царквы не прызнавалі яе аўтакефальнй, г. зн. самастойнай, якой, напрыклад, была баўгарская Царква. Гэта залежнае становішча рускай мітраполіі, перш за ўсё, праяўлялася ў тым, што патрыярх лічыў сваім права прызначаць мітрапаліта. Акрамя таго, канстантынопальскі патрыярх і ў іншых адносінах лічыў сябе старэйшым за рускага мітрапаліта. На практыцы, як следства далёкага месцазнаходжання і дзяржаўнай самастойнасьці Русі, умяшанне патрыярха ў справы рускай Царквы былі вельмі рэдкімі, толькі ў выключных выпадках. Пагэтаму ўлада патрыярха выяўлялася галоўным чынам толькі зацверджваннем мітрапаліта. Цяжка сказаць, ці мелі вялікія князі нейкі ўплыў на выбар патрыярхам мітрапаліта для Русі, так як наўрад ці яны мелі звесткі пра асобу таго ці іншага грэчаскага мніха, прызначаемага патрыярхам у рускія мітрапаліты. Старажытна-рускія летапісы большай часткай лаканічна адзначаюць: прыйшоў такі-та мітрапаліт. Звычай прысылкі мітрапаліта із Канстантынопаля мог зацвердзіцца тым лягчэй, што ў першыя 50 гадоў пасьля прыняцця хрысьціянства мітрапаліты жылі не ў Кіяві, а ў Пераяслаўле (паўднёвым). Такім чынам, вялікі князь не мог мець частых асабістых стасункаў з кіраўнікам Царквы. Але і паследуючыя князі, за выключэннем аднаго выпадку, не заяўлялі пратэст супраць усталяваўшагася звычаю.

У наступныя часы гэты звычай здаваўся нават сваеасабліва зручным. Праўда, грэчаскі мніх, згодна з вобразным выразам мітрапаліта Нікіфара ў пасланні да Манамаха, “не ведаючы рускай мовы, стаіць пасярод сваіх пасомых безгалосным і шмат маўчыць” (мітрапаліт Нікіфар загадваў перакладаць свае пасланні з грэчаскай мовы на рускую). Калі мітрапаліт не мог настаўляць сваю паству, то, з іншага боку, ён быў безстаронні́м сведкай княжых спрэчак; пагэтаму да мяркавання свайго духоўнага ўладыкі князі адносіліся з вялікай павагай. Із шэрагу 21 мітрапаліта, якія кіравалі мітраполіяй на працягу да-мангольскага перыяду, толькі двое былі рускімі па паходжанню. Першым рускім мітрапалітам быў знакаміты прапаведнік часоў Яраслава Мудрага Іларыён. Верагодна з яго часу мітрапаліты

канчаткова зацвердзілі сваю рэзідэнцыю ў Кіяві. Верагодна таксама, што перазод сюды мітрапалітаў супаў з пабудаваннем Сафійскай саборнай царквы. Мітр. Іларыён да свайго прызначэння быў святаром царквы св. Апосталаў на Берастове і быў вядомы як "муж благі, і кніжны, і постнік". Сапраўды, Іларыён быў выдатным прапаведнікам і літаратарам свайго часу, калі меркаваць па застаўшамуся ад яго "Слову аб законе і благадаці". Іларыён быў пасвечаны ў мітрапаліты ў 1051 годзе саборам рускіх япіскапаў па загаду Яраслава. У дадзеным выпадку князь не пажадаў патрэбным лічыцца ні з поглядамі канстантынопальскай Царквы ні з усталяваўшымся звычаем. Але Яраслаў сваім учынкам не хацеў парушаць ні аднаго ні другога: яму проста хацелася бачыць свайго любімага святара на мітрапалічай пасадзе. Пагэтаму пры пераемніках Яраслава патрыярх працягваў пастаўляць рускіх мітрапалітаў.

У старажытна-рускай гісторыі быў толькі адзін выпадак, калі вялікі князь *хацеў парушыць* усталяваўшыся лад і вылучыў пытанне аб царкоўнай саматойнасьці. У 1145 годзе мітрап. Міхаіл з'ехаў у Канстантынопаль, узяўшы з япіскапаў "рукапісанне" не служыць без яго ў св. Сафіі. Невядома нагода яго ад'езду, невядома таксама, чаму патрыяршы стол на працягу 3-ох гадоў не прысылаў на Русь мітрапаліта. Вялікі князь Ізяслаў Мсціслававіч, унук Манамаха, быў незадаволены такім станам рэчаў, сабраў сабор рускіх япіскапаў і згодна з рашэннем большасьці сабраўшыхся ўладык быў прызначаны мітрапалітам Клімент, кандыдат Ізяслава, мніх смаленскага Зарубскага манастыра, "кніжнік і філосаф, якога яшчэ не бывала ў рускай зямлі". Ізяслаў імкнуўся да разрыву з патрыяршым сталом: так паглядзелі на гэта трое із быўшых на саборы япіскапаў, якія не прызналі Клімента. І не ўсе рускія князі прызналі яго мітрапалітам: Юры Даўгарукі некалькі разоў выганяў Ізяслава із Кіева, разам з ім зыходзіў і мітрапаліт; нарэшце ў 1156 годзе, калі на вялікакняжым стале сядзеў Юры, а Клімент уцёк із Кіева, із Канстантынопаля прыбыў другі мітрапаліт, Канстанцін, грэк. Ён ганарова быў сустрэты Юрыем, наклаў індыкт на святароў і дыяканаў якіх паставіў Клімент і пракляў прах ужо нябожчыка к таму часу Ізяслава. Пасьля сьмерці Юр'я зноў адбылася замятня. Вялікі князь Расьціслаў Мсціслававіч, сябар і брат нябожчыка Ізяслава, не хацеў бачыць Клімента на мітрапалічай пасадзе, а хаўруснік Расьціслава Мсціслаў Ізяславіч не хацеў прызнаваць Канстанціна. Пасьля доўгіх спрэчак князі прыйшлі да арыгінальнай згоды: прывесьці із Царграда новага мітрапаліта. Такі мітрапаліт у хуткім часе з'явіўся із Канстантынопаля; гэта быў мітрапаліт Фёдар. Гэта быў адзінкавы выпадак, калі вялікі князь кіеўскі вылучыў пытанне аб царкоўнай самастойнасьці. Але, як мы бачылі, гэтая спроба прывяла да расколу ў рускай Царкве; не ўсе япіскапы і князі прызналі Клімента менавіта таму, што ён не

атрымаў благаславення ад святой Сафіі канстантынопальскай.

У гісторыі старажытна-рускай Царквы была яшчэ адна цікавая спроба, аб якой трэба нагадаць. Князь Андрэй Юр’евіч Багалюбскі, дасягнуўшы высокага палітычнага становішча, задумаў аддзяліць уладзімірскую епархію ад кіеўскай мітраполіі. Ён нават пабудаваў цудоўную па сваёй прыгажосьці кафедральную царкву Ўспення Багародзіцы. Князь Андрэй накіраваў у 1162 годзе пасольства да патрыярха Лукі Хрысаверга з прашэннем аб зацверджанні мітраполіі ва Ўладзіміры. Быў ужо і кандыдат на мітрапалічую пасаду – мніх Фёдар, але патрыярх рашуча адверг дамаганні князя Андрэя. Пераход мітрапалічай кафедры ва Ўладзімір абдыўся значна пазьней, ужо пасьля татарскага нашэсьця, менавіта ў 1299 годзе, калі мітрапаліт Максім канчаткова перанёс сваю сталіцу ва Ўладзімір на Клязьму.

Такім было стаўленне рускай Царквы да царгародскага патрыярха. Зараз патрэбна прыгледзецца да ўнутранага строю рускай Царквы.

На чале Царквы стаяў мітрапаліт. Яго *ўлада* была вельмі шырокай. Асноўнае кіраванне Царквой мітрапаліт здзясняў разам з саборам япіскапаў, якіх ён прызываў да сябе на нараду. Мітрапаліт быў галоўным кіраўнікам епархіяльных архіярэяў. Ён наведваў іхныя епархіі, прызываў да сябе япіскапаў на суд. Зыходзячы з нешматлікіх прыкладаў мітрапалічага суду над япіскапамі можна заўважыць, што яго ўлада выяўлялася часам у суровай форме, згодна з духам таго часу. Так, напрыклад, згодна з апавяданнем летапісу, дастаткова вядомы наўгародзкі япіскап Лука Жыдзята быў абвінавачаны сваімі ж хлопамі, з нагоды чаго мітрапаліт запатрабаваў яго на свой суд і некалькі гадоў трымаў у зняволенні. Дакладна такжа зрабіў мітрапаліт Клімент у дачыненні да наўгародзкага япіскапа Ніфанта і зняволіў яго ў Кіева-Пячэрскім манастыры. Тут, дарэчы, мела месца асабістая варожасць, так як Ніфант не хацеў прызнаваць Клімента мітрапалітам. Але самым рэзкім выпадкам мітрапілічага суду разам з саборам над япіскапам, быў суд мітрапаліта Канстанціна над растоўскім япіскапам Фёдарам. Гэты той самы Фёдар, які быў вылучаны Андрэем Багалюбскім ва ўладзімірскія мітрапаліты. Фёдар, пасьля таго як пасольства Андрэя зведала няўдачу ў патрыярха, сам выправіўся ў Канстантынопаль і тут быў прызначаны патрыярхам япіскапам растоўскім. Вярнуўшыся на Русь, ён не пажадаў узяць благаславення ў мітрапаліта Канстанціна. Гэтая сутычка скончылася прызваннем Фёдара на суд мітрапаліта разам з саборам япіскапаў. Япіскапскі сабор абвінаваціў растоўскага япіскапа ў рабаваннях і насільствах: як быццам бы ён караў святароў, распінаў іх, выпальваў вочы, варыў у катлах і нават вымаўляў хулу на Багародзіцу. Суд прысудзіў Фёдара да смяротнага пакарання: яму спачатку адрэзалі язык і правую руку, выкалалі вочы і, нарэшце, адсеклі галаву. У

цяперашні час цяжка знайсьці праўду ва ўсёй гэтай гісторыі з япіскапам Фёдарам. Бязспрэчна, мітрапаліт дасланы із Царграду, пасьля таго як руская мітраполія зрабіла спробу да самастойнасьці і кіраваўшы якраз у той час, калі такая ж спроба была зроблена Андрэем пад уплывам таго ж Фёдара, не мог абыякава аднесьціся да ўчынкаў свайго праціўніка. Але, з другога боку, і ў паводзінах япіскапа было не ўсё добра, можна нават усумніцца ў яго псіхічным стане; ад яго адвярнуўся нават яго абаронца Андрэй. Сваю як судовую, так і адміністрацыйную дзейнасць мітрапаліт здзяйсняў ці сумесна з саборам япіскапаў ці самастойна, у залежнасьці ад абставін ці царкоўных пастаноў.

Вельмі важным бокам дзейнасьці мітрапаліта быў яго ўдзел у пастановах япіскапаў. Старажытная Русь у гэтым дачыненні не ведала аднастайнага звычая. У грэчаскай Царкве выбранне япіскапаў здзяйснялася саборам япіскапаў пад старшынством мітрапаліта. Першапачаткова на Русі пераважала выбранне япіскапаў вялікім князем, бяспрэчна, не без згоды самаго мірапаліта. Пагэтаму наш пачатковы летапіс часта гаворыць пра нашых князёў, што такі-та князь “паставіў япіскапа” у тым ці іншым горадзе. З цягам часу асобныя землі набываюць самастойнасць; вялікі князь губляе сваёзначэнне, чаму змяняецца і характар выбрання япіскапаў: галоўнае значэнне ў выбранні пачынае належаць мясцовай уладзе. Тады пачынае ўсталёўвацца своеасаблівы звычай: больш магутныя князі самі выбіраюць кандыдата і пасылаюць для пасьвячэння да мітрапаліта, часам дадаючы вельмі значныя падарункі. Часам мітрапаліт самастойна прызначае япіскапа, калі разлічвае на больш згаворчывага князя. Праз гэта часам здараліся непаразуменні паміж мітрапалітам і князямі. Так, у 1185 годзе мітрапаліт Нікіфар прызначыў было ў Растоў япіскапам грэка Мікалая, без усякіх кансультацый з князем суздальскім, вядомым Усеваладам Юр’евічам III. Але князь не прыняў яго, паслаў сказаць мітрапаліту: “Не выбралі яго людзі зямлі нашай”. Пасьля доўгіх перамоў мітрапаліт высьвяціў у растоўскія япіскапы мясцовага ігумена Луку, княжага кандыдата, а Мікалая паслаў япіскапам у Полацк, дзе ён і быў прыняты. Із гэтага факта, між іншым, выяўляецца, што князь пры абранні япіскапа раіўся, калі не з насельніцтвам (што наўрад ці верагодна), то, ва ўсякім разе, са сваімі баярамі і мясцовым святарствам. У адным толькі Вялікім Ноўгарадзе веча, як і ва ўсіх іншых справах, брала ўдзел у выбары ўладыкі. Гэта ўсталявалася, аднак, не адразу, толькі ў палове XII ст. пасьля смерці знакамітага наўгародзкага япіскапа Ніфанта – таго самага, які аспрэчваў правільнасць прызначэння Клімента, - сабраліся наўгародзкія людзі на веча і “ізволіша сабе япіскап паставіці муж Богам абран Аркадзія”; увесь народ выправіўся ў манастыр Прэсвятой Багародзіцы, узялі там мніха Аркадзія, павялі яго ў двор св. Сафіі і

даручылі яму епархію. Гэтая праява наўгародскай самастойнасьці здарылася якраз тады, калі на мітраполіі сядзеў Клімент, не прызнаваемы Ніфантам і наўгародцамі. Прыйшоў новы мітрапаліт на Русь, Канстанцін, і бяспрэчна пасьвяціў у архіярэі народнага выбранніка. З гэтага часу за наўгародзкім вечам зацвердзілася права выбрання ўладыкі. Гэтае выбранне адбывалася двума спосабамі: ці калі веча "ізволіша" Богам абранага кандыдата, аднагалосна называла імя новага ўладыкі, ці, у выпадку наяўнасьці некалькіх кандыдатаў, справа вырашалася лёсаваннем. Ноўгарад адстаяў сабе выключнае права, але гэта тлумачыцца тым, што ў першай палавіне XII ст. Вялікі Ноўгарад быў самай магутнай дзяржавай сярод старажытна-рускіх княстваў. Наўгародцы пайшлі яшчэ далей і ў 1166 годзе дабіліся для свайго ўладыкі ганаровы тытул fрхіяпіскапа: згодна з кананічным правам гэты тытул не дадаваў япіскапу ні ўлады ні самастойнасьці.

Толькі што былі паказаны некаторыя факты, якія сведчаць аб тым, што старажытна-рускія князі бралі самы гарачы ўдзел у справах Царквы, праяўляючы свой удзел нават у справе абрання мітрапалітаў і япіскапаў; нават народныя вечы імкнуліся да ўстанаўлення такога ладу. Ведаючы высакае становішча, якое надавалася ў старажытнай Русі ўладыкам, нельга здзіўляцца таму, што князі і насельніцтва жадалі бачыць сваю катэдру занятай чалавекам ім знаёмым і імі паважаным. Праўда, такое ўмяшанне цяжка пагаднялася з царкоўнымі канонамі. Але гэта было стагоддзе калі найвякшая пабожнасць спакойна мірылася з парушэннямі царкоўных правілаў. Пагэтаму няма нічога дзіўнага ў тым, што князі і ў іншых выпадках бралі ўдзел у царкоўных справах і паказвалі самаўладдзе і ў чыста царкоўных пытаннях. Так, напрыклад, некаторыя князі выявілі вялікую ўвагу і не меншае самаўладдзе ў пытанні, якое вельмі цікавіла старажытна- рускае грамадства палавіны XII ст.,- у пытанні аб тым, ці патрэбна пасьціцца ў сераду і пятніцу ў выпадку калі на гэтыя дні выпадалі Гасподзкія, Багародзічныя святы ці нарочытых святых. Растоўскі япіскап Нестар, забараняўшы пост у гэтыя дні, за выключэннем святаў Нараджэння Хрыстова і Богаяўлення, быў прагнаны насельніцтвам, накіраваны князем Андрэем Багалюбскім на суд мітрапаліта з абвінавачнем у нейкіх учынках (нам невядомых), быў апраўданы мітрапалітам, але не рашыўшыся вярнуцца назад у Растоў і накіраваўся ў Царград. Пераемнік Нестара Лявон быў праганяемы князем Андрэем двойчы: першы раз за тое, што ён быццам бы рабаваў папоў, а другі раз за тое, што ён не дазваляў пост у сераду і пятніцу пад час Гасподзкіх святаў, тады як князь быў супраць такога меркавання. Праўда, вучэнне Лявона было прызнана ерэтычным і з боку патрыярха. У 1168 годзе чарнігаўскі князь Святаслаў прагнаў япіскапа Антонія, які забараняў ужыванне мяса на працягу ўсіх Гасподзкіх свят за выключэннем

некаторых; япіскап вучыў так, як было прызнана мітрапалітам і патрыярхам, князь жа з імі не згаджаўся. Цікава, што ў той жа самы час мітрапаліт трымаў у затачэнні пячэрскага ігумена Палікарпа, які як раз дазваляў пост ва ўсе Гасподзкія святы. Не менш чым князі ў справах Царквы брала ўдзел наўгародзкае веча. У 1211 годзе веча пазбавіла катэдры архіяпіскапа Мітрафана з нагоды невядомай зараз прычыны, а праз 8 гадоў вырашыла зноў прызначыць яго на катэдру, заявіўшы занімаўшаму тады катэдру архіяпіскапу Антонію: "Ідзі, куды табе хочацца". Перамемнік уладыкі Мітрафана Арсеній зведаў той жа лёс, таму што вярнуўся прагнаны раней уладыка Антоній, якому наўгародцы "былі рады"; Арсеній быў вымушаны сысьці. Пасьля выдалення Антонія ў сувязі з хваробай у манастыр, у 1228 годзе, наўгародцы зноў аддаюць св. Сафію выдаленаму раней уладыку Арсенію, але праз вельмі кароткі час здарылася вялікая засуха. Чэрнь паўстала ("па навучэнню д'ябла", тлумачыць летапіс), сабрала веча і на ім вырашыла, што вінаватым у высыханні з'яўляецца Арсеній. Натоўп накіраваўся на двор уладыкі, і ў выніку fдбылося адзінкавае ў старажытнай Русі здарэнне: уладыку, згодна з апавяданнем летапісу, "акі зладзея піхаючы ў шыю выгналі, мале збярог Бог ад сьмерці", таму што ўдадыка паспеў зачыніцца ў Сафійскай царкве і адтуль пайшоў у Хутынскі манастыр. Затым мяцежны натоўп прывёў із таго ж Хутынскага манастыра хворага ўладыку Антонія; ён быў нямы, але яго зноў узвялі на катадру, а для кіраўніцтва ёю пасадзілі двух мужоў: Нікіфара шчытніка (г. з. майстра, які робіць шчыты) і Якуна Маісеевіча. Бяспрэчна, паказаныя прыклады ўмяшання свецкіх людзей у справы Царквы былі адзінкавымі, так што ні княжая ўлада ні народнае веча не перашкаджалі правільнаму ходу царкоўных спраў.

Пазнаёміўшыся з вышэйшым кіраўніцтвам Царквы і яе стасункамі з дзяржаўнай улады, зараз мы можам перайсьці да знаёмства з іншымі бакамі царкоўнага жыцця, перш за ўсё да жыцця епіскапій.

## III.

*Колькасць епархій* у старажытнай Русі была невялікай у параўнанні з яе прасторай. Да часу мангольскага нашэсця было ўсяго 15 епархій, з якіх 8 былі ўведзены яшчэ Ўладзімірам Сьвятым; гэта былі епархіі: чарнігаўская, растоўская, уладзімірская, наўгародская, тураўская, полацкая, цьмутараканьская[2], белгародская (апошняя ў Кіеўскай зямлі). У наступныя часы былі ўтвораны яшчэ 8 епархій: пераяслаўская і юр'еўская (з горадам Каневым) пры Яраславе, смаленская ў 1137 годзе, галічская да 1165 году, разанская да 1207 году, уладзіміра-клязьменская ў 1214 годзе, перамышлеўская ў

[2] Яна спыніла сваё існаванне ў канцы XI ст. ці на пачатку XII ст.

1220 годзе і вугорская (на Заходнім Бузе) перад самым татарскім нашэсьцем; адасабленне асобных епархій тлумачыцца ўзрастаннем абласной самастойнасьці: кожнаму князю хацелась сваю палітычную самастойнасць падмацаваць царкоўнай аўтаноміяй.

Першыя рускія япіскапы пасьля прыняцця хрысьціянства былі грэкамі. Але хутка на Русі з’явіўся і свой цэнтр падрыхтоўкі кадраў, які пераважна вылучаў кандыдатаў на архіярэйскія катэдры: гэта быў Кіява-Пячэрскі манастыр, з якога выйшла не менш чым 50 уладык.

*Улада* япіскапа ў адносінах да падначаленага яму святарства мае такое ж значэнне і такую з сілу згодна кананічным правілам, як і ўлада мітрапаліта над япіскапамі. Бясспрэчна, улада ўладыкі была ў той час вельмі значнай над падначаленым яму святарствам: ён мог “казніць”, згодна тагачаснаму выразу, г. зн. караць падначаленых яму духоўных асоб, і гэтыя пакаранні, згодна візантыйскаму заканадаўству, вылучаліся жорсткім характарам. Падобна таму, як мітрапаліт кіраваў Царквой з дапамой сабора япіскапаў, так і кожны ўладыка кіраваў епархіяй з дапамогай каллегіі із мясцовых святароў; гэта каллегія мела назву *клірас*. У гэту карпарацыю ўваходзілі ўсе саборныя святары, якія мелі к таму ж свае прыходзкія цэрквы. Звыш іх у склад кліраса, верагодна, уключаліся і свецкія чыноўнікі архіярэйскай катэдры. Япіскапскае кіраванне ў той час адрозніваласяя вялікай складанасьцю, так як япіскапы вырашалі і разнастайныя грамадзкія справы, патым мелі свае крыніцы прыбыткаў, вёскі і інш. Усё гэта патрабавала не малой колькасьці чыноўнікаў як духоўных так і свецкіх. Так, для вобласьці япіскапскага суду ўладыка меў асобнага намесніка, часам двух. Акрамя чыноўнікаў па кіраванню, былі яшчэ чыноўнікі, якія складалі япіскапскі двор. Двор уладыкі, верагодна, шмат у чым быў падобны на княжы двор, асабліва ў епархіях буйных княжэнняў. Так, напрыклад, наўгародскі ўладыка меў свайго стольніка, відавочна, вельмі значнага пры ім чыноўніка; пры тым жа ва ўладыкі былі асобныя ўладычыя баяры, хаця звесткі пра іх адносяцца да больш позьняга часу.

Для *ўтрымання* япіскапа і яго двара патрэбны былі, бясспрэчна, не малыя сродкі. Рускія князі ўжо з моманту прыняцця хрысьціянства імкнуліся забяспечыць япіскапа прыбыткамі. Крыніцы мітрапалічых і япіскапскіх прыбыткаў былі дастаткова разнастайнымі. Перш за ўсё, шмат якія бакі япіскапскай дзйнасьці былі аплочваемымі. Япіскапскай уладзе належала шырокая сфера суда. Судовыя пакаранні суправаджаліся пенямі на карысць япіскапа. Такім чынам, судовыя пошліны складалі адзну із галоўных крыніц прыбыткаў япіскапа; патым япіскапы бралі плату са святароў пры іхным пасьвячэнні. Гэта быў вельмі распаўсюджаны звычай, так што ўладзімірскі царкоўны сабор 1274 года нават вызначыў памер платы япіскапу за пасьвячэнне ў святарства, асудзіўшы тых з архіпастыраў, якія на “мздзе” раздавалі

духоўныя пасады. Былі і іншыя разнастайныя прыбыткі, якія суправаджалі дзейнасць япіскапа па епархіальнаму кіраванню.

Акрамя гэтых нерэгулярных прыбыткаў, Царква мела яшчэ дзве вялікія крыніцы: уласная маёмасць і дараваныя князямі дзесяціны з княжых прыбыткаў.

Нерухомая маёмасць і разнастайныя каштоўнасьці уазапашваліся ў цэрквах і манастырах як следства ахвяраванняў богашануючых людзей. Ужо жыціе св. Феадосія Пячэрскага паведамляе, што гэты манастыр меў вёскі, адданыя яму на "папячэнне", таму ж манастыру і ў больш позьнія часы князі і княгіні запісвалі землі; так, князь Яраполк Ізяславіч завяшчаў манастыру тры воласьці: Небльскую, Дзярэўскую і Лучскую, і вёскі каля Кіева, а яго дачка завяшчала таму ж манастыру пяць вёсак з чэляддзю і вялікі капітал у золаце і срэбры. Такія запісы рабілісь для таго, каб было "чым жа над ім дзеяці на паследнія дні, чым свечку і прасфору яго пабдзеці", так выказваецца летапісец, распявядаючы аб тым, што Расьціслаў Мсціславіч раздаў на царкву, манастыры і жабракам усю маёмасць, якая засталася пасьля сьмерці не маючага дзяцей яго дзядзькі Вячаслава Манамашыча.

Калі князі імкнуліся забяспечыць найбольш знакамітыя манастыры і цэрквы ахвяраваннем зямельнай маёмасьці, то тым у большай ступені гэта мела дачыненне да забеспячэння кафедральнай царквы. Звычайна пры заснаванні япіскапіі князь імкнуўся забяспечыць яе прыбыткамі. Так, ужо Св. Уладзімір запяспечыў дзесяцінную царкву св. Багародзіцы ў Кіяві, прызначыўшы для яе дзесяціну ад усіх княжых прыбыткаў. Звыш таго, Дзесяціннай царкве належаў цэлы горад Палоны – "Св. Багародзіцы град дзесяціны". Дзесяціна, якую прызначыў Уладзімір Святы належала мітрапалічай катэдры, як і Дзесяцінная царква. Той жа катэдры ў Кіеўскай зямлі належаў і горад Сінеліц (на Сулле). Жалаванне катэдрам гарадоў патрэбна разумець у тым жа сэнсе, як і жалаванне гарадоў баярам, г. зн. у сэнсе збірання ўсіх прыбыткаў з горада.

Разнастайнымі прыбыткамі была забяспечана і наўгародская катэдра. Тут пад назіраннем архіяпіскапа знаходзіліся гарадскія вагі і меры. Калі хто із купцоў быў злоўлены на падмане пры памерах, то ён прысуджаўся да патоку: яго маёмасць забіралася і дзялілася на тры часткі, адна із якіх ішла ў казну св. Сафіі, другая – царкве св. Іаана на Апоках і трэццяя – Вялікаму Ноўгараду. Звыш судовых пошлін і маёнткаў тут уладыка браў плату за анцімінсы, раздаваемыя па цэрквах епархіі, браў так званы "пад'езд", г. зн. плату збіраемую з цэркваў Пскова (верагодна і іншых прыгарадаў) пад час прыезду ўладыкі; пад'езд браўся і ў тыя гады, калі ўладыка не бываў у Пскове. Тут жа, у Вялікім Ноўгарадзе, уладыка карыстаўся дзесяцінай з княжых прыбыткаў.наогул наўгародская св. Сафія была багатай катэдрай: "Святая бо Сафія не ўбога есць", заявіў уладыка Іаан ужо ў другой

палавіне XII ст.

Шмат цікавых падрабязнасьцей мы ведаем аб матэрыяльным становішчы смаленскай катэдры. Яе заснавацель, князь Расьціслаў Мсціславіч, ахвяраваў катэдры дзесятую частку ўсіх сваіх прыбыткаў, г. зн. каля 300 грывен ці каля 200.000 рублёў на нашы грошы. Для таго часу гэта была вялікая сума. Акрамя таго, катэдры былі аддадзены горад Холм, дзве вёскі, луг, возера, агарод; звыш таго, князь аддаваў Св. Багародзіцы Смаленскай штогадова вызначаную колькасць воску на свечкі, дзесятую частку рыбы, збіраемай на князя ў Тарапцы.

Із усяго папярэдняга відаць, што япіскапскія прыбыткі дасягалі дастаткова вялікіх памераў, вызываючы часам пачуццё зайздросьці ў князяў. Наўгародцаў жа вялікая сафійская казна нярэдка выручала із бяды, так як да яе Вялікі Ноўгарад звяртаўся ў ціжкія часіны свайго існавання. Патрэбна яшчэ адзначыць, што розныя епархіі былі забяспечаны не аднолькава.

Пазнаёмыўшыся з крыніцамі прыбыткаў архіярэйскай катэдры, пяройдзем да іншых бакоў архіярэйскага кіравання.

*Абавязкі* ўладыкі ў тыя часы зводзіліся галоўным чынам да трох пунктаў: да навучання сваёй паствы, да пасьвячэння царкоўна- і свяшчэннаслужбоўцаў і да кіравання як духоўнымі, так і матэрыяльнымі справамі епархіі. У чым заключалася кіраванне епархіяй, мы зараз пабачым; зараз жа патрэбна высветліць, што ўяўляла сабой *епархіяльнае святарства.*

Асяродак белага святарства быў вельмі разнастайны: сустракаліся асобы адукаваныя і ўплывовыя, але агульная маса гарадскога і вясковага святарства не вылучалась як адным так і другім. У той час ведаць грамату было справай вельмі нялёгкай, ды і малапрывабнай: меч ваяра, вагі гандляра ці ключ цівуна давалі чалавеку значна лепшыя сродкі для існавання. Пагэтаму ў асяродак белага святарства даводзілася з цяжкасьцямі вербаваць людзей, якія далёка не былі прыдатнымі да выканання сваёй высокай задачы. Статут мітрапаліта Рыгора робіць шэраг саступак для асоб, якія пасьвячаюцца ў духоўнае званне. Так, згодна з гэтым статутам, можна было пасьвяціць у святары асоб, якія тварылі грахі, будучы яшчэ нехрышчонымі, за выключэннем душагубства, а пасьля хрышчэння перасталі грашыць; можна пасьвяціць і такога, які здзейсніў якое-небудзь злачынства, але пасьля пакаяўся свайму духоўнаму бацьку, - толькі б не быў за кратамі за крадзёж; апошняе выключэнне робіцца, відавочна, таму, што адбыванне апошняга пакарання магло б скампраментаваць пасьвячаемага. На самай справе, адзін статут XII ст. дазваляе прызначаць у дыяканы такога чалавека, які, хаця і будзе вінным у крадзяжы, але скончыць справу з пазыўцай без агалоску; калі ж справа дойдзе да княжага суду, агалосіцца перад людзьмі, то такі чалавек не варты дыяканства. Царква вельмі настойвала на

заключэнні шлюбу пры царкоўным вянчанні. Аднак, статут мітрапаліта Рыгора і тут робіць саступку: можна паставіць папом такога чалавека, які раней заключыў шлюб згодна язычніцкаму звычаю, толькі б абвянчаўся ў царкве перад пастаўленнем. Становішча святара часам прыніжалася да таго, што магутныя людзі аддавалі для вывучэння граматы рабоў, часам нават палонных із нехрысьціян і, прыводзячы іх д япіскапаў, запяспечвалі ім пасьвячэнне ў духоўны сан. Такі звычай, калі слух аб ім дайшоў да царградскага патрыярха, выклікаў моцны пратэст з боку апошняга.

Духоўны сан прынімалі ахвотна не ўсе, таму што ён далёка не ўсіх пасьвечаных запяспечваў матэрыяльна. Бяспрэчна, шмат хто із духоўных асоб карыстаўся вялікім дабрабытам, таму што прыхажане ахвотна прыносілі ім “дарок”. Затое іншым было вельмі дрэнна. Прыхадзкое святарства існавала за кошт выканання трэб, якія, калі меркаваць згодна адной звесткі XII ст., каштавалі дастаткова дарага і наўрад ці былі даступнымі для беднага чалавека. Залежнасць ад трэб часам вызывала зусім непажаданыя з’явы: напрыклад, уладзімірскі сабор 1277 году забараніў святарам патрабаваць выканання палявой працы ад людзей, якія жывуць пад царкоўным заступніцтвам.

# IV.

Вышэй ішла гаворка толькі аб адным баку царкоўнага кіравання. Але на Русі, падобна таму як і ў Візантыі, Царква карысталася такім шырокім значэннем, што яна мела дачыненне і да грамадзкага строю. На Русі значэнне Царквы нават было большым чым у Візантыі. Гэта адбылося таму, што ў язычніцкім грамадстве шмат што не лічылыся злачынствам, што было такім з боку гледжання Царквы: язычніцкія звычаі сутыкнуліся з царкоўнымі поглядамі. Былі і такія бакі жыцця, якімі язычніцкая дзяржава зусім не цікавілася; а, між іншым, з царкоўнага боку лічыліся злачынымі. Напрыклад, шматжонства было звычайным у старажытнай Русі, але з царкоўнага боку гледжання яно было недапушчальным; суд за такія ўчынкі перайшоў на Русі да Царквы, хаця сам учынак не меў царкоўнага характару. Царква ўзаконьвала шлюб. Але яна не магла змірыцца з язычніцкім звычае адружання. Усе падобныя справы ўжо пры першых князях пераходзяць у падсуднасць *япіскапскага суду*. Такім чынам, у падпарадкаванні гэтага суду апынуўся такіх спраў, якімі ў Візантыі займаўся свецкі суд. Царква была абаронцай слабых і пагэтаму займалася справамі дабрачыннасьці і заступніцтва над некторымі катэгорыямі людзей. Гэты бок яе дзейнасьці даваў Царкве новую судовую сферу. Нарэшце суд у старажытнай Русі быў у той жа час прыбытковай спрвай: жадаючы павялічыць прыбыткі Царквы князі перадаюць ёй справы, якія раней належалі іх княжаму суду.

Памеры царкоўнага суду на Русі былі вызначаны княжымі граматамі[3]. На іх аснове прадстаўнікі Царквы здзяйснялі суд. Ва ўнутраным жа сваім кіраванні Царква кіравалася канонамі, выдадзенымі св. апосталамі і сусветнымі саборамі; зборнік гэтых правіл носіць назву Номаканон. На Русі зборнікі царкоўных правілаў атрымалі назву Кормчай кнігі (кормчы-кіраўнік). У спісы Кормчай заносіліся спісы Номаканона, старажытна-княжых статутных грамат, кананічныя пастановы старажытных рускіх іерархаў, нарэшце, розныя спісы перакладаў і выняткаў із заканадаўчых зборнікаў візантыйскіх імператараў. Зборнікі візантыйскіх законаў выклікалі вялікую цікавасць у асяроддзі паўднёвых славян і на Русі, так як да заканадаўчай мудрасьці візантыйскіх імператараў адносіліся з вялікай павагай. Але ў рускім царкоўным праве візантыйскае заканадаўства мела яшчэ асобнае значэнне: у руках святарства быў вялікі гурт спраў грамадзянскага і крымінальнага зместу, перададзеных Царкве княжымі граматамі. У граматах жа цалкам не вызначаўся спіс пакаранняў, якія належала прысуджаць за злачынствы, ці ж вызначаліся толькі штрафы на карысць царквы (толькі ў адным статуце Яраслава), але затое не вызначаны памер тых пакаранняў, якія князь накладаў на абвінавачаных па царкоўнаму суду. Царкоўныя суды не маглі, бяспрэчна, знайсьці адказ у Рускай Праўдзе, якая і не ўтрымлівае ў сабе артыкулаў аб злачынствах, перададзеных у падначаленасць Царкве. Пагэтаму цалкам натуральна, што царкоўны суддзя шукаў накіроўваючыя ўказанні ў візантыйскім заканадаўстве. Адсюль зразумела значэнне сборнікаў візантыйскага права, якія хадзілі па Русі: імі карысталіся царкоўныя суддзі.

Зараз паглядзім, якімі ж рамкамі абмяжоўвалася сфера царкоўнага суда згодна пазначаных статутных грамат.

Перш за ўсё, як і ў Візантыі, на Русі існаваў цэлы клас людзей, якія па ўсіх злачынствах крымінльнага ці грамадзянскага характару знаходзіліся ў сферы царкоўнага суду: гэта царкоўныя людзі. Але ў Візантыі клас царкоўных людзей абмяжоўваўся клірам. На Русі гэты клас выяўляецца больш шырокім: у яго ўключаюцца мніхі, свяшчэнна- і царкоўнаслужачыя, іхныя дзеці, прасвірнікі, паломнікі, сьвечагасы, падарожнікі, пападдзі (відавочна ўдовыя), паповічы, г. зн., відавочна, не толькі дзеці, але і нашчадкі святароў. Затым ідзе шэраг асоб, якія ўтрымліваюцца ў царкоўных дабрачынных установах, г. зн. у шпіталях і прыёмніках падарожнікаў:

[3] Правы Царквы, якія выходзілі за сферу асабіста царкоўных спраў, былі вызначаны статутнымі княжымі граматамі. Такіх грамат да нас дайшло некалькі, менавіта: грамата Ўладзіміра Святога, Яраслава, дзве граматы наўгародзкага князя Усяслава Мсціславіча – адна аб царкоўных судах і гандлёвых мерах, а другая – статут Царквы св. Іаана Прэдцячы на Акопах у Ноўгарадзе (адносіцца да 1125-1135 гадам), царкоўны статут наўгародзкага князя Святаслава Ольгавіча 1137 году і статутная грамата Смаленскай епархіі, дадзеная князем Расьціславам Мсціславічам у 1150 годзе. На жаль, першая із гэтых статутных грамат, бяспрэчна, самая важная, дайшла да нашага часу ў такім выглядзе, што выклікае шмат сумненняў у сваёй сапраўднасьці: у старажытнасьці граматы перапісваліся і перапісчыкі ўводзілі ў іх новыя артыкулы на свой погляд; пагэтаму сустракаюцца спісы грамат больш вялікія і менш вялікія. Найбольшую колькасць сумневаў выклікае статут Яраслава. Дарэчы, хаця праз існаванне шматлікіх спісаў нельга дакладна вызначыць, якія артыклы былі дададзены перапісчыкамі ў статут Яраслава, але адно не выклікае сумнення, што абодва статуты князёў Уладзіміра і Яраслава, і пры гэтым у самым падрабязных спсах, былі прызнаны сапраўднымі ў палавіне XIII ст. і ўсе судовыя справы, вызначаныя ў статутах, вырашаліся япіскапскім судом. Значыць, раней гэтатага часу ўвесь шырокі шэраг судовых спраў, ахопленых самымі вялікімі спісамі Яраславава статуту, на практыцы перайшоў пад нагляд царкоўнага суду.

“То людзі царкоўныя, багадзельныя”. Разам з імі, відавочна, у лік царкоўных людзей трапіў і лекар. Да ліку царкоўных людзей адносіліся таксама і людзі, якія знаходзіліся пад асобным наглядам царквы: такімі з’яўляліся прашчэннікі, г. зн. людзі, атрымаўшыя вылячэнне, як следства нейкага цуда, задушныя людзі, г. зн. вольнаадпушчанікі згодна з духоўным завяшчаннем, нарэшце, ізгоі. Ізгоямі, якія знаходзіліся пад заступніцтвам Царквы і пад яе судом, называліся асобы траякага паходжання: 1)паповы сын, не выучыўшы грамату і, як следства, не могучы прыняць святарскі сан; 2)халоп, выкуплены із няволі; 3)збанкрутаваны гандляр. У старажытнай Русі тэрмін ізгой выкарыстоўваўся і да княжага роду, калі старэйшая лінія князёў на прыканцы XI ст. імкнулася адлучыць прадстаўнікоў малодшай лінііі ад валодання княствамі. Такім чынам, гэта былі людзі, выбітыя з жыццёвай каляіны і меўшыя патрэбу ў падтрымцы такой моцнай установы, як Царква. Такім чынам, шэраг асоб, якія знаходзіліся пад яе наглядам і яе судом, быў вельмі вялікі. Ізгоі і прашчэннікі жылі, напрыклад, цэлымі вёскамі на царкоўнай зямлі. Згодна Смаленскай граматы, напрыклад, прашчэннікі аддаваліся пад нагляд япіскапа з мядовымі і грашовымі падаткамі і з усімі судовымі платамі.: “Ні надаб іх судзіці нікакому ж чалавеку”, апавядае грамата. Ізгоі аддаюцца цэлымі вёскамі разам з зямлёй на якой яны сядзяць. Тут жа япіскапу аддаюцца і некаторыя людзі, магчыма, несвабодныя, працаваўшыя на княжых гаспадарчых адзінках: бортнік (г. зн. назіраючы за борцямі) з зямлёй, агарод з “тым капуснікам”, г. зн. з чалавекам, які вырошчваў на ім капусту, з яго жонкай і дзецьмі. Усе гэтыя асобы, як царкоўныя так і не маючыя адносін да Царквы, аддаюцца на падсуднасць япіскапу. Калі здарыцца позва царкоўнага чалавека да нецаркоўнага, то тады справа разбіраецца на звычайным судзе, г. зн. княжы і царкоўны суддзі судзяць разам.

І так, шэраг *царкоўных людзей* выяўляецца занадка вялікім. Царква забірае з дзяржавы ў сваё выключнае валоданне не толькі асоб, аддаючых сябе дабрачыным справам (напр. паломнікі), і асоб, патрабуючых абароны праз сваю слабасць, але таксама і асоб, фактычна згубіўшых усякую сувязь з царквой, напкрыклад паповічэй, удоў.

*Суд япіскапа* над царкоўнымі людзьмі быў поўным, хаця б справа ішла пра забойства і г. д. Але потым ідзе доўгі шэраг учынкаў, якія належаць япіскапскаму суду*, кім бы яны ні былі здзейснены.* У іх ліку перш за ўсё стаяць справы, якія не лічыліся злачынствам у язычніцкіх грамадствах. Так, пасьля з’яўлення Царквы патрэбна было, перш за ўсе, ахоўваць яе разам з яе ўстановамі. Такія справы, бяспрэчна, не маглі быць перададзены ў рукі свецкіх судзяў-язычнікаў, ці толькі што выйшаўшых із язычства. Пагэтаму ўжо статут Уладзіміра Святога перадае на разгляд Царквы наступныя злачынствы, з’яўляючыяся святататствам: крадзёж царкоўнай маёмасьці, рабаванне магіл, порчу крастоў (на магілах ці ў цэрквах),

порчу царкоўных сьцен і наведванне царквы разам з сабакамі і іншымі жывёламі. Царква была прызначана і разглядаць учынкі супраць чысьціні веры. Яна была прызвана духоўна змагацца з валхвамі і наогул з разнымі праявамі язычніцтва. Але княжыя статуты даюць Царкве яшчэ і права суду над падобнымі злачыствамі. Пагэтаму вядзьмярства, валхваванне з дапамогай траў, атрутных рэчаў, наогул усякае чарадзейства належала царкоўнаму суду. Згодна з гэтым і папрок, зроблены кім-нібудзь другому ў занятках чарадзействам ці ж у ерасі, г. зн. у адступленні ад правілаў рэлігіі, перадаваўся на суд Царквы. Тагачасная Русь, напалову язычніцкая, бяспрэчна поўнілася такімі злачынствамі. Статут князя Ўсевалада перадае царкоўнаму суду яшчэ і тых, якія моляцца пад восецямі, у гаі ці каля вады, г. зн. іншымі словамі, усіх тых, хто прадаўжае адпраўляць язычніцкія набажэнствы. Патрэбна, аднак, заўважыць, што старажытна-руская Царква, валодаючая такімі значнымі магчымасьцямі для барацьбы з ерасямі і рэшткамі язычаскіх звычаяў, выкарыстоўвала свае правы вельмі умерана, разумеючы цяжкасць з якой непісьмены народ мог сутыкнуцца пры засваенні дагматаў хрысьціянства. У старажытна-рускіх помніках можна знайсьці указанні на тое, што святарства словам пераконвала сваю паству пакінуць язычаскія звычаі, да нас дайшло шмат павучэнняў у тым жа накірунку, так што наўрад ці ўлада царкоўнага суду ў гэтых адносінах была цяжкай для паствы: сустракаюцца выпадкі сведчання духоўных асоб, але не свецкіх.

Царква прынесла з сабой у старажытна-рускае грамадства зусім новае разуменне шлюбу і шмат якіх іншых бакоў сямейных адносін. Шмат якія устанаўленні, якія праводзіла царква былі цалкам процілеглымі тым, якімі жыло язычніцкае грамадства. Яно прызнавала шматбожжа, не лічыла злачынствам адружанне з родзічам, мела асобныя ўзаконьванні адружання і г. д.; нарэшце, язычніцкае грамадства прызнавала моцную ўладу бацькі ў сям'і, не дапускаючай ніякага ўмяшання з боку княжага суду. Наскольки цвёрда трымаліся сямейныя звычаі можна зрабіць выснову з таго, што на працугу першых стагоддзяў пасьля прыняцця хрысьціянства царкоўнае вянчанне было распаўсюджана вельмі мала. Шмат хто з просталюдзінаў былі перакананы, што царкоўнае вянчанне патрэбна толькі для баяраў, а не для простых людзей. Царква атрымала пад сваё назіранне пытанні, якія мелі дачыненне да шлюбу. Свецкая ўлада старанілася гэтых спрэчак і прызнавала як язычніцкія формы заключэння шлюбных адносін, так і вянчанне. У іншых жа выпадках, хаця судзіў князь, але судовыя штрафы ішлі япіскапу. Так, згодна княжых грамат, такія злачынствы як выкраданне маладой, - "увалочная цяжа аж увалачэ хто дзеўку", вырашаў князь ці яго пасаднік, але штраф князь ці яго суддзя дзяліў з япіскапам пароўну. Гэта таму, што "умыканне дзеўкі", хаця і рабілася з мэтай адружання, але свецкая ўлада адносілася да гэтага як да ўсякага крадзяжу ці

гвалту, калі выкраданне здзяйснялася без згоды маладой. Аднак статут Яраслава прызначае большую пяню за “сорам” дзеўчыны і штраф япіскапу, пры гэтым памер штрафу залежаў ад становішча бацькоў дзеўчыны: за баярскую дачку плацілася болей чым за дачку “добрых” людзей.

Скасаванне шлюбу, як узаконенага Царквой так і не ўзаконенага, знаходзіўся ўжо выключна пад разглядам Царквы. Скасаванне, ва ўсякім разе, прызнавалася законным толькі тады, калі нагода да скасавання ішла з боку жонкі; аднак, адружаныя маглі разысьціся і па ўзаемнай згодзе, без віны аднаго з іх: у выпадку скасавання шлюбу патрэбна было, згодна статутнай граматы Яраслава, заплаціць штраф япіскапу ў памеры 12 грывен, калі шлюб быў асьвечаны царквой; калі адружанне адбылося без царкаўнага вянчання (згодна з язычніцкімі звычаямі), то за скасаванне плацілася ўдвая менш. Значыць скасаванне шлюбу нават пры ўзаемнай згодзе абружаных лічылася ўчынкам, які караецца грашовым штрафам. Калі ж чалавек пакідаў жонку без яе згоды, то ён плаціў ёй за “сорам” у адпаведнасьці ад дастатку яе бацькоў і, звыш таго, караўся з боку свецкай улады.

Да шлюбных спраў адносіліся ўсе справы, якія узнікалі праз заключаныя перадшлюбныя дамовы, пад час сватаўства. Царква таксама назірала, каб шлюбы не заключаліся паміж людзьмі, якія знаходзіліся ў вызначаных ступенях радства. Да шлюбаскасоўчых спраў адносіліся таксама справы аб дваяжонстве – “аж вадзіў хто дзве жаны”. Заключэнне другога шлюбу без законнага скасавання шлюбу з першай жонкай пагражала чалавеку прымусам да сужыцця з першай жонкай, а другая накіроўвалася ў царкоўны дом, што, верагодна, азначала манастыр ці спецыяльна зладжанае месца для заключэння. Аднак адначасовае сужыццё з двума жанчынамі каралась такім жа чынам і, звыш таго, дастаткова вялікім штрафам на карысць япіскапа. Разнастайныя злачынствы, магчымыя пры шлюбным жыцці, разглядаліся царкоўным судом. Сюды адносіліся амаральныя паводзіны адружаных, маёмасныя спрэчкі паміж імі, ці калі чалавек украдзе лён ці “парты”, г. зн. плацце, якія належалі жонцы і г. д. Справы падобныя апошнім ужо з’яўляюцца надбудовай над шлюбнымі справамі ў асабістым сэнсе; тое ж патрэбна сказаць і аб справах паміж сябрамі сямей, напрыклад, паміж бацькамі і дзецьмі. Удзел царкоўнага суду і падобных справах можна растлумачыць як імкненне перадаць Царкве як мага больш спраў з мэтай павелічэння яе прыбыткаў, так і тым , што княжы суд раней ніколі не разлядаў спрэчкі, якія ўзніклі паміж сябрамі сям’і; раней разляданне такіх спраў было прэрагатывай старэйшага ў сям’і ці родзе. Так, царкоўнаму суду былі аддадзены такія выпадкі: калі сын ці дачка паднімуць руку на бацьку ці маці, некаторыя спрэчкі аб спадчыне (паміж дваюраднымі братамі) і г. д.

Ва ўчынках, маючых дачыненне да шлюбных і сямейных адносін, аддадзеных на суд Царквы, нельга не заўважыць адной агульнай тэндэнцыі: атрымліваючы пад свой разгляд права суду над падобнымі справамі, царква выяўляецца ўстановай, якую свецкая ўлада робіць назіральнікам за маральнасьцю грамадзян. Гэтае назіранне з боку царкоўнага суду выходзіла далёка за межы царкоўнага ладу: Царква атрымала ў дадзеным выпадку кіруючае значэнне таму, што Царква на гэтай ніве была настаўніцай новай паствы. Злачынствы супраць маральнасьці лічыліся перш за ўсё грэхам, папярэджваць які Царква імкнулася перш за ўсё сваім вучэннем і сваёй дзейнасцю. Таму ў княжых статутных граматах мы сустракаем шэраг артыкулаў, вызначаючых разнастайныя віды злачынстваў супраць маральнасьці. Асабліва старанна граматы абараняюць больш слабую палавіну грамадства: разнастайныя абразы, якія робяцца ім, ці "сорам", належаць разгляду царкоўнага суду.

Але, звыш паказаных катэгорый спраў княжыя граматы перадаюць таму ж суду справы, як бы цалкам выпадкова выхапленыя з практыкі злачыннай. Так, напрыклад, Царква судзіць справы аб душагубстве, г. зн. не праднамераным забойстве. Тут яшчэ можна меркаваць той матыў, што Царква брала такога выпадковага забойцу пад сваё заступніцтва і, клапоцяшыся аб яго выратаванні, прызначала яму царкоўнае пакаянне. Але нельга знайсьці якога б там ні было апраўдваючага матыва для спраў падобных, напрыклад, наступнай; "Аж б'етася дзве жаны", г. зн. калі пабіліся паміж сабой дзве жанчыны; ці "два мужы імуць біціся", г. зн. бойка паміж двума мужчынамі, ці калі адзін мужчына ўкусіць другога пад час бойкі, ці вырве клок барады.

Калі ўзгадаць шэраг крымінальных і грамадзянскіх спраў і, звыш таго, царкоўных у асабістым сэнсе, то лёгка пабачыць, што *вобласць* царкоўнага суду у старажытнай Русі была непамерна *шырокай*. З цягам часу яго дзейнасць яшчэ больш пашыралася і царкоўны суд у такім аб'ёме дажыў да рэформ Пятра Вялікага. Як мы бачылі, справы, складаўшыя сферу царкоўнага суду, былі вельмі разнастайнымі. Можна вызначыць некаторы шэраг спраў, якія і згодна царкоўнага статуту і па праву павінны належаць Царкве, напрыклад, шлюбаскасавальныя. Быў і іншы шэраг спраў, з'яўленне якіх у сладзе царкоўнага суду можна растлумачыць тым выключным становішчам, якое заняла хрысьціянская Царква ў рускім язычніцкім грамадстве; напрыклад, справы маючыя дачыненне да адружання, шматжонства, назірання за маральнасьцю. Але звыш гэтых відаў учынкаў, так сказаць, натуральна ўваходзячых у кола інтарэсаў Царквы, быў адзначаны і шэраг спраў граадзянскага і крымінальнага характару, выпадкова, без вызначанай мэты адабраных ад княжага суду.

Калі супаставіць правы якімі карысталася Царква на Русі згодна з княжымі граматамі і становішчам Царквы ў грамадстве

Візантыйскай імперыі, то не цяжка заўважыць вялікае адрозненне. Візантыйскія законы давалі прадстаўнікам Царквы шырокае права ўмяшання ў сферу суду і адміністрацыі, здзяйсняемых імператарскімі чыноўнікамі; галоўным чынам япіскапу давалася магчымасць мець уплыў і назіранне за шэрагам спраў. На Русі ж япіскап атрымаў правы, яія давалі яму шырокія судовыя паўнамоцтвы. Згодна з законам ён не мог браць удзел у княжай адміністрацыі ці судзе. Але затое сам япіскап уяўляў сабой пераважна суд. Япіскапскі двор ператвараўся ў судовы трыбунал, пры ім былі і асобныя царкоўныя дамы для заняволення вінаватых.

Тут узнікае адно вльмі цікавае пытанне: якімі былі пакаранні да якіх мог прысудзіць вінаватых япіскапскі суд? Справа ў тым, што граматы Ўладзіміра Святога, Усевалада і Расьціслава вызначаюць толькі характар спраў, якія вялі царкоўныя суды. Але нідзе не вызначаюць згодна з якімі ж законамі павінен быў судзіць япіскап і якія пакаранні ён мог прысуджаць вінаватым. Статут Яраслава прызначае толькі штрафы на карысць япіскапа, а потым звычайна дадаюць: “А князь казьніць”. Узнікае пытанне: абапіраючыся на якія ж законы казніць князь тых асоб, якія асуджаны царкоўным судом? Наогул, нават не вядома, як жа адбывалася гэтая перадача асоб абвінавачаных царкоўным судом суду свецкай улады[4]. Між іншым граматы толькі пералічвалі катэгорыі спраў (напрыклад, “вядзьмоўства”, г. зн. чарадзейства, “зелле”, г. зн. валхванне з выкарыстаннем траў і г. д.), не вызначаючы ні іхны характар ні належачыя пакаранні. Чым жа кіраваліся суддзі? Лёгка здагадацца, што япіскап-грэк і нават рускі інак адказ на гэта пытанне пачне шукаць не ў рускіх законах і звычаях (там і адказ нельга было знайсьці), але ў заканадаўстве Візантыйскай імперыі. У старажытнай Русі нават і свецкія суддзі звярталіся да той жа крыніцы, калі не знаходзілі адказ у Рускай Праўдзе. Ды і на самой Праўдзе заўважаецца ўплыў візантыйскага заканадаўства. Вельмі натуральна пагэтаму, што царкоўны суддзя звяртаўся да зборніка законаў, якія складаліся із выняткаў із законаў візантыйскіх цароў. Спісы гэтых законаў знаходзіліся ва ўсякай Кормчай. Але ў такім выпадку якімі ж былі пакаранні, прызначаемыя візантыйскім заканадаўствам? Яны дастаткова адрозніваліся ад старажытнарускіх. Руская Праўда ведала сістэму штрафаў і адплат за прычыненую шкоду, якім бы вялікім ні было злачынства. Візантыйскае заканадаўства пераважна заснавана на сістэме жорсткіх цялесных пакаранняў, часта выкарыстоўвае членапашкожданні, часам далучаючы і царкоўныя пакаранні ў памеры цяжка выконваемым для сапраўднага хрысьціяніна. Для прыкладу возьмем некалькі такіх злачынстваў, якія падпадалі пад царкоўны суд і паглядзім, якое пакаранне прызначалася за падобныя ўчынкі ў тых візантыйскіх зборніках, якія ў перакладах былі

[4] Статут Яраслава, як мы ведаем, вызывае найбольш сумненняў: яго сістэма штрафаў складзена па такой грашовай сістэме, якая не выкарыстоўвалася ў старажытныя часы (яна адносіцца да XIII-XIV ст. і, значыць як мінімум перабленa перапісчыкамі).

распаўсюджаны на Русі. Так, княжыя граматы аддаюць царкоўнаму суду асоб, які адружыліся знаходзячыся паміж сабой у ступені радства забароненай кананічнымі правіламі. Згодна візантыйскім законам, калі кум адружваецца з кумой, ці хросны бацька са сваёй хроснай дачкой, накладаецца пакаранне: “Па людскому закону абаім адрэзаць насы і скасаваць шлюб, а пацаркоўнаму – таксама скасаваць шлюб і прызначыць пост і пакаянне на 15 гадоў: 5 гадоў стояць паза царквой і плакаць падчас літургіі, 4 гады стаяць у царкве да чытання евангелля, 3 гады да спявання сімвала веры ды тры гады пасьціцца на хлебе і вадзе”. Адружыўшыхся родзічэй патрэбна біць і скасаваць шлюб, дваяжонцу патрэбна “цягнуць цвердзь”, г. зн. патрэбна добра пабіць і прызначыць яму пост на 7 гадоў; “гробнага таця”, г. зн. рабаўніка магіл, патрэбна падвергнуць 300 параненням (гэты артыкул візантыйскіх законаў цалкам паўтораны ва Ўладзіміравым статуце, але вызначэнне пакарання прапушчана: занадаўца ведаў, што суддзя знойдзе вызначэнне пакарання), царкоўнаму тацю выколвалі вочы і адразалі нос і г. д. Карацей, характар пакаранняў, якія выкарыстоўваліся ў візантыйскім заканадаўстве, адрозніваўся прцілегласцю адносна ад старажытна-рускіх. Аднак яны, бяспрэчна выкарыстоўваліся ў царкоўнай практыцы; сумная гісторыя япіскапа растоўскага Фёдара паказвае, што членапашкоджваючыя пакаранні прызначаліся царкоўным судом ці, згодна з яго пастановамі, свецкім, нават і да вінаватага япіскапа; а ў абвінаваўчым акце супраць япіскапа Фёдара гаворыцца, што ён не справядліва прызначаў такія ж пакаранні да асоб цалкам не вінаватых, г. зн. уладыка абвінавачваўся ў несправядлівым судзе, а не ў самім спосабе пакаранняў, між іншым, згодна з яго прысудамі вінаватым выколвалі вочы, адсякалі канечнасьці і г. д.

## V.

Зараз, калі мы пазнаёміліся з тым становішчам, якое згодна са старажытна-рускімі законамі занімала Царква, нам не цяжка скласьці ўяўленне аб тым становішчы, якое занімалі ў грамадстве прадстаўнікі Царквы – святарства.

Ужо із папярждняга зразумела, што святарства паспела ўзняцца вельмі высока.

У нашым старажытным летапісе мы часта сустракаем характарыстыку старажытных князёў: яны “прэізліху” любілі чарнецкі і папоўскі чын. Сапраўды, Ккнязі выказвалі ім вялікую павагу. “Любоў” гэта, між іншым, выяўлялася ў тым, што князі часьцяком самі наведвалі найбольш паважаных духоўных асоб для размоў з імі, а яшчэ часьцей звалі да сябе на абеды і застоллі япіскапаў, ігуменаў, чарняцоў і белых папоў, даючы ім падарункі і імкнучыся пачаставаць іх як можна лепш. Некаторыя з князёў нават славіліся падобнай

гасьціннасьцю. Бяспрэчна, з’яўленне святарства на княжым застоллі часта і абмяжоўвалася толькі мірской справай – піраваннем. Але не менш часта мірскія заняткі на такіх застоллях замяняліся і духоўнымі заняткамі: не будзем забывацца, што нават такі сьвяцііцель, як св. Феадосій Пячэрскі наведваў княжыя застоллі і вёл на іх размовы з князем; згодна з жаданнем св. Феадосія князь Святаслаў нават выдаляў са сваіх застолляў скамарохаў, дарэчы, толькі тады, калі з’яўляўся сам сьвяты. Але з’яўленне папоў, ігуменаў і япіскапаў на княжых застоллях разам з баярамі і дружынай мела яшчэ і іншы сэнс: тым самым прадстаўнікам святарства выказвалася пашана такая ж як і баярам, думцам княжым і вялікім людзям. Уладзімір Св. пад час свайго застолля першы стол ставіў для мітрапаліта са святарамі. Пашана, якая выказвалася да духоўнага чыну, выказвалася яшчэ адной цікавай асаблівасьцю: у дамовах з іншаземцамі, напрыклад, з немцамі, за кожную абразу нанесеную пасланцу і святару вінаваты прызначаўся да двайнога пакарання, “ажэ пасловi прыгодзіцца пакасць ці папові, ва ўсякай абідзе за два чалавецы плаціці”. І так, поп каштуе двух чалавек, хоць бы і баяр.

Калі ў судовай сферы кампетэнцыя святарства выходзіла далёка за межы чыста царкоўных інтарэсаў, то лёгка здагадацца, што і штодзённая дзейнасць святарства досыць часта выходзіла за межы цэркваў. Тое кіпучае палітычнае жыццё, якое характэрызавала старажытную Русь, вельмі часта захоплівала і прадстаўнікоў святарства. Так, пры паміжкняжымі дыпламатычнымі перамовамі пасланнікам быў звычайна святар. Бяспрэчна, і тады, як і ў цяперашні час, дыпламатычная служба не магла была быць выканана пасьпяхова чалавекам новым, не знаёмым з паміжкняжымі адносінамі. Бяспрэчна таксама, што дыпламатычныя даручэнні і ў тыя часы давяраліся асобам, вызначаючымся як сваім аўтарытэтам так і тактам. Да ўсяго гэтага святары (часьцей за ўсё княжыя духаўнікі) маглі падрыхтавацца папярэдне, удзельнічаючы, напрыклад, у княжых нарадах. Часам роля некаторых пасланцаў-святароў была вельмі адказнай; такія выпадакі здараліся пры заключэнні дамоў з немцамі; так, пры заключэнні смаленскай дамовы з немцамі ў лік пасланнікаў у Рыгу хадзіў і поп Ерамей: на яго, верагодна, была ўскладзена і канцылярская частка пры заключэнні гэтага пагаднення, патрабаваўшая ведання лацінскай і нямецкай моў. Тое што святары маглі атрымліваць падрыхтоўку да дыпламатычнай службы, гэта цакам верагодна. Мы сустракаем іх у ліку ўдзельнікаў княжых нарад: на княжым савеце з нагоды заключэння той жа дамовы сядзіць япіскапскі намеснік Лаўрэнцій (бяспрэчна, духоўная асоба) і поп Андрэй. Акрамя таго, верагодна, наогул канцэлярская служба таго часу, хаці і не вельмі складаная, пераважна прыпадала на асоб, належачых да царкоўнага кліру. Гэтым, між іншым, тлумачыцца, тая акалічнасць, што слова дзяк, якое абазначала царкоўнага служыцеля

(зараз дзячок), пачало абазначаць наогул асобу, вызначаную весьці справу пісьмаводства: першапачаткова каля святароў чарнавую працу выконвалі служачыя іх прыхадской царквы – дзякі.

Паказаныя вышэй выпадкі – служба сьвятароў па грамадзянскай частцы. Але духоўны чын не толькі служыў князям, - ён моцна ўзвышаў свой голас, імкнучыся падпарадкаваць рашэнні князя свайму аўтарытэту. Гэта асабліва часта здаралася тады, калі патрэбна было стрымаць міжусобіцы паміж князямі. Няшмат знаходзілася такіх асоб сярод белага і чорнага святарства, нялёгка было стрымаць гнеў старажытна-рускага князя ці яго тонкі дыпламатычны разлік, але, між іншым, вядомы і такія выпадкі ўмяшання сятарства. Так, ігумен Андрэеўскага манастыра ў Кіяве Рыгор, жадаючы ўтрымаць князя Мсціслава Мсціславіча ад вайны з князем Яраславам, спачатку сам рэзка выступіў супраць вайны, нарэшце, склікаў увесь “сбор іярэйскі” для таго, каб пераканаць князя.

Вышэй паказана некалькі фактаў, дзе фігуруюць прадстаўнікі белага сьвятарства ці простыя мніхі. Але зразумела, што галоўную ролю ў княствах мелі мітрапаліт і япіскапы. Уладыка – самая ганаровая асоба горада. Гэта добра ведалі і суседнія народы, напрыклад, немцы якія свае граматы ў Смаленск, Полацк і інш. прызначалі: “Благаславенне ад мітрапаліта рыжскага свайму міламу сыну князю вялікаму Фёдару і яго дзецям, і *ўладыку*, і намесьніку, і ўсім баярам”. На наўгародзкіх і смаленскіх дамовах з немцамі стаіць і пячатка мясцовага ўладыкі: гэтым падкрэслівалася святасць дамовы, а для іншаземцаў такая дамова ўяўлялася больш моцнай, чым дамова, падмацаваная толькі княжай пячаткай і згодай.

Мы бачым архіярэяў бяручымі ўдзел у значных свецкіх справах і паўсюды ім адводзіцца адно із першых месц. Уладзімір Св., як вядома, раіўся з япіскапамі нават пры выданні законаў, якія не мелі дачынення да Царквы, напрыклад, пры выданні закону аб вірах з разбойнікаў. І ў пазнейшыя часы ў значнейшых выпадках у княжую думу зваўся япіскап, ці ён пасылаў туды свайго намесьніка. Наогул, парада япіскапа мела вялікую вагу ў вачах князя.

Асабліва вялікае значэнне гэтыя парады мелі тады, калі патрэбна было ўстрымаць князя ад дарэмнага праліцця крыві. У такіх выпадках часам самі князі звярталіся да ўладык і найболь паважаных духоўных асоб, часам апошнія самі бралі ўдзел у княжых сварках. Такая традыцыя ў асяродку старажытна-рускага святарства вельмі добра была адзначана мітрапалітам Нікіфарам. У 1195 годзе ўладзімірскі князь Усевалад звярнуўся да кіеўскага князя Рурыка Расьціславіча з патрабаваннем аддаць яму 3 гарады, як раз тыя самыя, якія Рурык толькі што аддаў свайму зяцю Раману, на чым і хрэст цалаваў. Становішча Рурыка было цяжкім: Усевалад быў вельмі моцны, а Раман быў зяцем і лепшым хаўруснікам Рурыка. У цяжкую хвіліну кіеўскі князь звярнуўся да мітрапаліта Нікіфара і адрымаў ад

яго параду: “Княжа! Мы есьма прыстаўлены ў рускай зямлі васьцягаці вас ад кровапраліцця. Ты даў воласць малодшаму, пакрыўдзіўшы старэйшага і хрэст да яго цалаваў, але можа праліцца кроў хрысьціянская ў рускай зямлі; зараз я здымаю з цябе хрэснае цалаванне і бяру на сябе, а ты паслухай мяне, вазьмі воласць у свайго зяця і дай старэйшаму, а Раману дай іншую ў тое месца”.

У гэтых словах выказалася традыцыйнае меркаванне, якім на працягу стагоддзяў было прасякнута рускае святарства.

Як толькі пачыналася жорсткая барацьба паміж князямі, уладыка ўжо пачынаў “хадзіць паміж імі”, як красамоўна выказваецца летапісец. У 1135 годзе мітрапаліт Міхаіл паспеў прымірыць вялікага князя Яраполка Ўладзіміравіча з яго ворагамі, чарнігаўскімі князямі Ольгавічамі. Ольгавічы прыйшлі пад Кіеў і Яраполк быў гатовы змагацца з імі. Але ў справе ўзяў удзел мітрапаліт Міхаіл, “ходзячы межы імі чэснаму мітрпаліту з храстом”; г. зн. ён з храстом у руках пераходзіў ад аднаго варожага лагера да другога, прыміраючы супрацiўнікаў. Мітрапаліт Міхаіл дамогся таго, што вялікі князь Яраполк саступіў Ольгавічам і аддаў тыя гарады, якія яны патрабавалі; із гэтага відаць, што ён дзейнічаў не згодна з намерамі вялікага князя, але згодна са справядлівасьцю. Той жа мітрапаліт Міхаіл праз тры гады, у 1138 годзе, пасьля сьмерці Яраполка благаславіў на вялікае княжэнне яго брата Вечаслава, але праз тры тыдні пад Кіявам з’явіўся з войскам чарнігаўскі князь Усевалад Ольгавіч. Мітрапаліт зноў “захадзіў” паміж князямі, і справа скончылася мірным адыходам Вячаслава ад Кіева.

Наогул, ва ўсіх нарадах, ва ўсіх выпадках умяшання вышэйшага святарства ў міжкняжыя адносіны заўсёды вылучаўся адзін і той жа аргумент – жаданне пазбернуць праліцця крыві, каб не руйнавалася зямля руская.

Не гледзячы на высокае становішча ўладыкі ў старажытна-рускім грамадстве, не гледзячы на тое, што пераважная колькасць архіярэяў былі рускімі людзьмі, незаўважаецца з іхнага боку вялікага жадання браць удзел у палітыцы. Пры слабасьці княжай улады гэта здавалась бы павінна было быць вельмі важным. Відавочна, старажытна-рускія чарняцы выходзілі са сцен манастыроў і садзіліся на катэдры, прасякнутыя інтарэсамі агульна-рускага жыцця, выключаючы мясцовыя выгады той ці іншай вобласьці. Уладыка стаяў вышэй вузкіх мясцовых інтарэсаў і раіў князям адно – захоўваць мір у інтарэсах агульна-рускіх.

У адным толькі Ноўгарадзе ўладычая катэдра больш актыўна брала ўдзел ва ўнутраных і знешнх справах сваёй зямлі. І тут уладыка займае месца, перш за ўсё, захавальніка міру, аддаляючыся ад той ці іншай партыі. Але для самой справы захавання міру ўладыка быў вымушаны пастаянна браць удзел у цякучай дзейнасьці зямлі. Першым наўгародзкім япіскапам, які часта браў удзел у земскіх справах, быў

знакаміты Ніфант, займаўшы катэдру з 1130 па 1156 гады. Ніфант, хутчэй за ўсё, не быў народжаным наўгародцам – ён быў із інакаў Кіева-Пячэрскага манастыра, але ён быў цалкам прасякнуты наўгародзкімі інтарэсамі і шмат зрабіў для справы ўсталявання спакою ў Ноўгарадзе. Ён прызывае ў Ноўгарад мітрапаліта Міхаіла для заспакойвання хваляванняў у горадзе, ён выпраўляецца з наўгародзкімі выбраннікамі да новаабраных князей, клапоціцца каля Юр'я Даўгарукага "міру дзеля", бярэ ўдзел у агульна-рускім справах і прыходзіць да Кіева дзеля таго, каб памірыць тых з чарнігаўцамі.

Дзейнасць Ніфанта, бяспрэчна, узвысіла значэнне наўгародскага ўладыкі. Пасьля Ніфанта Ноўгарад сам пачаў выбіраць сваіх уладык і выбіраў іх з народжаных наўгародцаў. Не дзіўна пагэтаму, што шмат хто із уладык выказалі высокі патрыятызм і глыбокае разуменне мясцовых умоў. Благаславенне св. Сафіі станавіцца абявязковым пры вырашэнні разнастайных спраў Вялікім Ноўгарадам. Уладыку ж мы бачым і тут на народнай плошчы, калі спрэчкі паміж партыямі пачынаюць набываць небяспечны характар.

Такім чынам, старажытна-руская Царква, валодаючы шырокімі правамі, вялізнымі матэрыяльнымі сродкамі, у палітычных справах карысталася сваімі магчымасьцямі вельмі сьціпла, выкарыстоўваючы іх пераважна для справы захавання міру.